*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

**№ 138 (490)**

Аўторак, 4 жніўня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля



## 62 працэнты апытаных сацыёлагамі мінчан выказаліся за правядзенне выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе

Як вядома, у 1994 годзе ў Беларусі на пяцігадовы тэрмін, гэта значыць да 1999 года, быў абраны прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. Аднак у 1996 годзе ў беларускую Канстытуцыю былі ўнесены змяненні і дапаўненні, якія прадугледжваюць працяг тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта да 2001 года. У ходзе даследавання, праведзенага сацыялагічнай службай "Люстэрка" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН у Мінску з 24 па 28 ліпеня, дарослым жыхарам сталіцы было прапанавана адказаць на пытанне, калі неабходна праводзіць выбары прэзідэнта — у 1999-м ці ў 2001 годзе.

Большасць — 62 працэнты з 600 апытаных рэспандэнтаў — выказалася за 1999 год; кожны пяты (21 працэнт) — за 2001 год. 17 працэнтам апытаных мінчан было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне. Сярод прыхільнікаў правядзення прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе больш за палову (83 працэнты) — асобы ва ўзросце да 50 гадоў; 89 працэнтаў з іх маюць сярэднюю і вышэйшую адукацыю; звыш паловы — 52 працэнты — мужчыны.

Тыя, хто лічыць, што прэзідэнцкія выбары трэба праводзіць у наступным тысячагоддзі, прадстаўлены ў большасці сваёй людзьмі ва ўзросце ад 50 гадоў і старэй (54 працэнты), з сярэднім і ніжэй узроўнем адукацыі (72 працэнты). Больш як палова з іх — 67 працэнтаў — жанчыны.

На пытанне "ЯК ВЫ СТАВІЦЕСЯ ДА РАШЭННЯ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА ПАДТРЫМАЦЬ ПРАВЯДЗЕННЕ Ў БЕЛАРУСІ СВАБОДНЫХ І СПРАВЯДЛІВЫХ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ У 1999 ГОДЗЕ?" большасць апытаных мінчан (53 працэнты) адказалі станоўча, 17 працэнтаў — адмоўна, 12 працэнтам рэспандэнтаў рашэнне Еўрапарламента абыякава. Астатнім было цяжка адказаць.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

**Акцыі**

## Бел-чырвона-белы сцяг узняты над Дзвіною

У адну з апошніх ліпеньскіх начэй напярэдадні гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі бел-чырвона-белы сцяг узняўся ў Наваполацку над цэнтрам русла Заходняй Дзвіны. Больш таго, гістарычная святыня беларускага народа правісела амаль двое сутак на неймавернай вышыні на правадах высакавольтнай лініі электраперадач паблізу маста на ўездзе ў горад нафтахімікаў і ёю маглі палюбавацца ўжо дзесяткі тысяч гараджан, як і здзівіцца адчайнай смеласці выканаўцаў гэтай акцыі. Знайшліся, зразумела, і тыя, хто асудзіў паводзіны "непрымірымых нацыяналістаў", а вось энтузіястаў зняць "варожую" сімволіку доўгі час не знаходзілася.

І толькі вечарам, падагнаўшы дзеля гэтага кацер, удалося спачатку падцягнуць палотнішча да апоры, а потым ліквідаваць небяспечны для ўлады сімвал. Характэрна, што аб гэтым здарэнні зноў прамаўчалі афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, бо неяк няёмка паведамляць, што на Віцебшчыне, як і ў іншых месцах краіны, нацыянальныя сцягі рэгулярна ўздымаюцца не толькі падчас мітынгаў і шэсцяў, але нават над самім будынкам аблвыканкама. Пройдзе час, і аб гэтых учынках безыменных патрыётаў будуць узгадваць нашчадкі як аб адным з яркіх эпізодаў нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі.

**Уладзімір ШЫК.**

## Ну і фокуснікі!

Сачу за дзеяннямі кіруючай каманды рэспублікі і не знаходжу адказу на пытанне: адкуль у яе столькі фокусніцтва? Вось паглядзіце: клятва верна служыць Канстытуцыі — і тут жа падкоп пад дзейнасць парламента; Беларусь — суверэнная краіна, а дзяржаўную мову ёй трэба даць расійскую; у Авальнай зале збілі дэпутатаў апазіцыі, а следчы вышэйшай кваліфікацыі не можа ўстанавіць, хто збіваў і хто аддаў на тое загад; на радзіме Гітлера яго імя годныя людзі саромеюцца прамаўляць, а ў нас на ўвесь свет ухваляюцца ўсталяваныя ім парадкі; амаль на палове планеты сацыялістычная сістэма паказала сваю нежыццяздольнасць, а мы будуем рынкавы сацыялізм; краіны міжнароднай супольнасці выконваюць падпісаныя імі законы, а для нас гэтыя законы — нішто і г.д.

Рэспубліку і народ выстаўляюць на сусветны сорам, а сябе — на смех.

**В.СКАРАХОД, пенсіянер.**

Мінск.

**Стоп-кадр**



По предварительным оценкам, неплохой урожай зерновых собираются получить в колхозе "Октябрь" Наровлянского района: от 35 центнеров озимой ржи до 45 центнеров пшеницы, причем первый год пшеница выращивается на "реабилитированных" землях. Опытные образцы, выращенные здесь, показали, что продукция вполне пригодна для использования в пищу.

Уборку зерновых по традиции в Наровлянском районе начинают первыми на Гомельщине, не стал исключением и этот год. После первых солнечных дней на поля вышли шесть комбайнов "Дон", которыми планируют убрать за 10 дней более 800 гектаров зерновых.

**На снимке**: *опытные образцы зерновых с различных полей показывают, что ожидается неплохой урожай. Заместитель председателя колхоза по полеводству Любовь Ястремская и лучший комбайнер хозяйства Сергей Кохненко со снопами урожая 98-го года.*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

## За апошні час у Гомельскай вобласці ўзраслі даўгі за электраэнергію

Доўг Гомельскай вобласці за электраэнергію і прыродны газ складае на сёння 1 трлн. 383 млрд. і 111,5 млрд. рублёў адпаведна. Калі за апошні час даўгі за электраэнергію ўзраслі на 51 млрд. рублёў, то запазычанасць па газе ўдалося знізіць на 70 працэнтаў. Толькі тры гарады ў вобласці — Мазыр, Рэчыца і Светлагорск — цалкам аплачваюць бягучае спажыванне энергарэсурсаў. Аналагічнымі поспехамі могуць пахваліцца і 93 працэнты суб'ектаў гаспадарання, аднак многіх з іх гняце груз даўгоў мінулых гадоў. Сярод прамысловых прадпрыемстваў хранічнымі неплацельшчыкамі з'яўляюцца Гомельскі радыёзавод, ВА "Гомсельмаш" і ВА "Эмальпосуд". Найбольш складанае становішча ў аграпрамысловым комплексе, дзе ўдаецца аплаціць менш чым 50 працэнтаў бягучых расходаў. Астатнія сумы назапашваюцца ў выглядзе даўгоў.

У якасці адной з мер па зніжэнні запазычанасці аблвыканкам распарадзіўся дэпрэміраваць вінаватых кіраўнікоў.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ.**

## Апытаныя сацыёлагамі мінчане выказалі свае меркаванні наконт канфлікту, звязанага з рэзідэнцыямі кіраўнікоў дыпламатычных місій у Драздах

Падчас гарадскога апытання, праведзенага 24—28 ліпеня ў Мінску сацыялагічнай службай "Люстэрка" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, была зроблена спроба ўдакладніць меркаванні жыхароў беларускай сталіцы адносна канфлікту, звязанага з рэзідэнцыямі кіраўнікоў дыпламатычных місій у комплексе "Дразды".

Гаворачы аб узбуджальніках канфлікту, 38 працэнтаў з 600 апытаных дарослых мінчан назвалі прэзідэнта Беларусі, 9 працэнтаў — урад рэспублікі. Кожны пяты з апытаных мінчан (18 працэнтаў) указаў на абставіны, што склаліся. 13 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што канфлікт у Драздах інспіріравалі самі паслы. Астатнім рэспандэнтам было цяжка адказаць на пастаўленае пытанне.

Увазе мінчан таксама было прапанавана пытанне "ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ РАШЭННЕ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА АБ ЗАБАРОНЕ ЎЕЗДУ Ў КРАІНЫ ЕЎРАПЕЙСКАГА САЮЗА АФІЦЫЙНЫХ АСОБ БЕЛАРУСІ І НЕРАСПАЎСЮДЖВАННІ ГЭТЫХ МЕР НА ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ?" Каля трэці апытаных (31 працэнт) выказаліся супраць, а 23 працэнты рэспандэнтаў адобрылі рашэнне Еўрапарламента. Кожны чацвёрты з адказаўшых (26 працэнтаў) падтрымаў яго часткова. Астатнім было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

**Здарэнні**

## Угон з разбойным нападам

Прадаць апошнім часам патрыманы аўтамабіль становіцца няпроста, што адразу выкарысталі розныя авантурысты. Уладальнік іншамаркі "БМВ-520" прыкметна павесялеў, калі да яго праявіў цікавасць нейкі малады хлопец. Машына "пакупніку" спадабалася, але перад тым, як канчаткова ўдарыць па руках, папрасіў вадзіцеля праверыць хадавыя якасці аўто на дарозе. З вецярком праімчалі па горадзе, выскачылі на шашу ў напрамку Лёзна. Далей падзеі разгортваліся, як у самым страшным дэтэктыве.

У адным з месцаў "пакупнік" папрасіў уладальніка машыны спыніцца быццам па патрэбе. У гэты момант з кустоў выскачылі два хмурыя тыпы з пісталетам, звязалі кіроўцу і адвезлі ў лес. Добра, што яшчэ не забілі, а толькі прывязалі да дрэва, пазбавіўшы магчымасці клікаць на дапамогу. Застрашаны і моцна разгублены, гэты чалавек быў вызвалены з неспадзяванага палону. Але да гэтага часу след ягонай іншамаркі і рабаўнікоў не знойдзены. Адшукаць адабраную машыну на бяскрайніх расійскіх прасторах будзе няпроста, бо яе маглі разабраць да гэтага часу на дэфіцытныя і дарагія запчасткі.

**Уладзімір ШЫК.**

## Па словах дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея, вярнуць скарбы музея, страчаныя ў гады другой сусветнай вайны, сёння практычна немагчыма

Як лічыць дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, вярнуць скарбы музея, страчаныя ў гады другой сусветнай вайны, сёння практычна немагчыма. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН У.Пракапцоў паведаміў, што страчаны юрыдычныя сведчанні, якія б пацвярджалі сапраўднасць твораў і правы ўласнасці на іх.

Па словах дырэктара музея, мастацкія творы перад вайной не паспелі апісаць, бо музей адкрыўся ў лістападзе 1939 года, калі ў яго сховішчы сталі паступаць тысячы карцін, скульптур і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з дваранскіх маёнткаў Заходняй Беларусі, перад гэтым уключанай у склад БССР. Паводле ўспамінаў навуковых супрацоўнікаў музея саракавых гадоў, вядома, што з пачаткам Вялікай Айчыннай вайны дваццаць тысяч твораў мастацтва, што знаходзіліся ў музеі, былі ўпакаваны і падрыхтаваны да вывазу, але не былі эвакуіраваны з Мінска з-за адсутнасці транспарту. Верагодна, музейныя каштоўнасці былі выкрадзены нацыстамі і вывезены ў Германію. Далейшы іх лёс невядомы і прасачыць яго немагчыма, таму што мастацтвазнаўцы музея ў пасляваенныя дзесяцігоддзі не дапускаліся да міжнародных аўкцыёнаў, ды і сёння не маюць выхаду да міжнароднай інфармацыйнай сеткі Інтэрнэт. "Нават я, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея, не ведаю, што прадаецца і купляецца сёння на сусветных мастацкіх таргах", — сказаў У.Пракапцоў.

Па яго словах, з даваеннай калекцыі захаваліся толькі творы мастацтва, што знаходзіліся на выставе ў Расіі, і некалькі работ з кінутага музея, выратаваных мінчанамі. "Яны сталі асновай новай пасляваеннай калекцыі, якая была адроджана дзякуючы падзвіжніцтву Алены Аладавай — дырэктара музея таго часу", — заключыў Уладзімір Пракапцоў.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## Узнагарода святару-рэстаўратару — за старанне і добрасумленнасць

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі Філарэт прыняў у епархіі настаяцеля Слуцкай Свята-Касма-Даміянаўскай царквы айца Мікалая (у міру — Мікалай Паўлавіч Коржыч) і ўручыў яму ўзнагароду — ордэн Сяргея Раданежскага — за старанне і добрасумленнае служэнне царкве Боскай, людзям і ў сувязі з 25-годдзем з дня прыняцця святога сану і 55-годдзем з дня нараджэння.

Пяць гадоў таму айцец Мікалай прыехаў у Слуцк з Чачэрска, дзе таксама быў настаяцелем мясцовага храма. На новым месцы прыняў пакінуты вайскоўцамі ў іх былым гарадку абшарпаны салдацкі клуб. Вось калі спатрэбілася святару колішняя рабочая загартоўка — ў маладосці восем гадоў працаваў на шахтах Данбаса ў забоі. Меней чым за год ён здолеў з дапамогай прыхаджан і не абыякавых да яго святой справы гаспадарнікаў абсталяваць па ўсіх канонах праваслаўя малітоўную залу, алтар, каб рэгулярна праводзіць набажэнствы.

У мінулым годзе, восенню, айцец Мікалай пачаў капітальную рэстаўрацыю будынка храма з мэтай надання яму больш прыстойнага знешняга і ўнутранага выгляду. Не задавальняла і малая плошча малітоўнай залы. Увесь комплекс задуманых работ архітэктурным аддзелам гарвыканкама па каштарысе быў ацэнены ў мільярд рублёў з лішкам. Тым не менш гэта не спыніла святара. З дапамогай гарвыканкама, кіраўнікоў шэрага прадпрыемстваў і арганізацый была ўзведзена двух'ярусная званіца, пашырана малітоўная зала, былі ўзведзены над новым дахам каркасы пяці купалоў. Завяршыць аддзелачныя работы святар разлічвае да канца года. Быць у адной асобе настаяцелем храма і прарабам — справа нялёгкая. Трэба думаць, што ў епархіі, пры вызначэнні высокай узнагароды, улічылі і гэты, асвечаны Святым Духам крок айца Мікалая.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

г.Слуцк.

**Громкое дело**

## Следователя защищает анонимщик. Что бы это значило?

В редакцию "Народной воли" поступил факс, автор которого клеймит Валерия Щукина за обнародование информации о пытках, применяемых правоохранительными органами к лицам, находящимся под стражей (НВ, N131 за 24 июля 1998 года).

Адресант утверждает, что в день выхода газеты он *"знаходзіўся ў пакоі таго самага следчага, аб якім гэтак жудасна напісаў сп.Шчукін, і менавіта па пытаннях, што датычыліся нейкім чынам дзейнасці фірмы Клімава. Таму ў мяне ёсць падставы сцвярджаць, што газета напрацавала яшчэ адно ачко на рахунак непрымірымай апазіцыі "ў прынцыпе", але згубіла чарговае ачко ў іміджы некаторых сяброў гэтай апазіцыі. Дарэчы, аб следчым. У мяне склалася думка, што калі б апазіцыя больш разважліва ставілася да людзей не агулам, а ў канкрэтыцы, то шмат якіх асобаў, у т.л. і памянёны следчы, яшчэ добра папрацавалі б на карысць Новай Беларусі. А шмат якія "лідэры апазіцыі" не марочылі б людзям галовы фразёрствам".*

Что бы это значило?

Как офицер военно-морского флота могу предложить "морскую" версию — первыми с тонущего корабля бегут крысы! У нынешнего режима заканчивается пятилетний срок нахождения у власти. Перспективы — в свете последних решений мирового сообщества — за туманом не просматриваются. Отвечать же за нарушения прав человека и Конституции Республики Беларусь 1994 года каждый будет персонально.

Ссылки на декреты, указы и прочие антиконституционные распоряжения в расчет приниматься не будут. Коль государства мира уже сейчас отказывают в выдаче виз на въезд пособникам режима, то уж тем более не дадут их после восстановления на Беларуси народовластия.

А как родилось сие послание в "Народную волю", — видно из последнего абзаца: *"пакідаю свой ліст без подпісу, каб не склалася ўражанне, што "адправіцель" перад следствам мае грахі".*

Не знаю, как у читателей, а у меня складывается мнение, что оно написано не только под давлением, но и под диктовку начальника следственного управления Александра Кужеля. В упомянутой статье я высказал мнение, что действия данного должностного лица по отношению к депутату парламента Андрею Климову, его матери, жене и детям подпадают под классификацию пытки.

Почти три месяца под предлогом сохранения тайны следствия полковник А.Кужель отказывает Алле Петровне Климовой в свидании с сыном. А тайна та, по всей видимости, лишь в том, что за полгода содержания в "застенках" у Кужеля политзаключенного А.Климова лишили здоровья.

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета 13-го созыва, секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**

**Претенденты**

## Большинство жителей Беларуси хотят видеть своим президентом Геннадия Карпенко

Если бы выборы президента Беларуси состоялись в эти дни, то самого лучшего результата достиг бы Геннадий Карпенко. Об этом свидетельствуют итоги социологического опроса, который провела "Либеральная газета".

Проанализировав 2.542 опросных листа со всей территории Беларуси, организаторы опроса установили, что 30,7% опрошенных хотели бы видеть в настоящее время президентом Беларуси Геннадия Карпенко. На втором месте в этом своеобразном рейтинге — Александр Лукашенко — 27,2%.

Любопытно, что эта же тенденция была зафиксирована и в предыдущем опросе, который прошел два месяца тому назад. Но тогда разрыв между Геннадием Карпенко и Александром Лукашенко был в два раза меньше. Таким образом, Г.Карпенко увеличивает свой отрыв от нынешнего президента.

Что касается других претендентов, то следом за лидерами идут Сергей Гайдукевич и Зенон Позняк.

**Владимир ГЛОД.**



**Услышьте нас!..**

## Люди и собаки

Точка зрения общества на собак варьируется: от отношения к ним как к равным существам до уверенности в своем полном над ними превосходстве.

В Южном Китае, Полинезии и Центральной Америке собак выращивают для употребления в пищу. Большинство же людей в мире эта мысль приводит в ужас.

Некоторые социологи считают, что сильная привязанность к собакам более присуща людям, живущим в богатых индустриальных странах. С точки зрения экономики оправдывается содержание собак, которые тащат сани, помогают в охоте, пасут стада, защищают дом, участвуют в боях, ловят преступников, отыскивают наркотики, помогают в качестве поводыря и т.д.

А что же обычные собаки в городской квартире? Действительно, для многих людей в городе, на первый взгляд, содержание собаки выглядит чем-то вроде роскоши. Но это не так. Собака — самый верный и преданный друг, и она первая радостно встречает хозяина и дружески виляет хвостом. Более половины семей в США имеют каких-либо домашних животных. Содержание их даже стало там культурной нормой. То же в Англии, Голландии и других странах Европы. Там редко можно увидеть брошенных животных.

Медики доказали, что уровень кровяного давления человека при общении с животными нормализуется. Иногда домашнее животное помогает найти общий язык с совершенно незнакомыми людьми, служит связующим звеном. Отношения между людьми и собаками варьируются от самых отрицательных или нейтральных до очень теплых, дружеских. В таких странах, как США, Израиль и многих других существуют даже кладбища для животных. В США их примерно 600. Древнейшие останки домашних собак извлечены из мест их захоронений. В Израиле, например, возраст останков — 12 тысяч лет. У нас же захоронение домашних животных — почти неразрешимая проблема.

В Беларуси поистине варварское и безнаказанное отношение к животным.

В Беларуси продолжается:

— массовое выбрасывание животных на улицу;

— отлов животных спецслужбами по уборке города;

— убийство животных в день отлова;

— отстрел животных работниками милиции (с превышением полномочий по мерам допустимой защиты);

— изуверские методы над животными, применяемые в учебных и научных целях;

— принимаются решения на уровне местной власти, ущемляющие права владельцев животных и самих животных (в частности, высокие налоги на содержание, система штрафов и т.д.).

Мы обращаемся к тем, кто болеет о настоящем и будущем нашей страны, подать свой голос в защиту животных! Призвать тех, от кого это зависит, остановить произвол! А в качестве конкретной помощи — спасти десятки или даже сотни животных, которым сегодня необходим кров над головой и человеческая защита!

**Л.АДАМОВИЧ, Т.ТИМАНЮК, В.РУБИНЧИК, В.ПЛАСТУН и другие члены Общества защиты животных "Каштанка".**

## Гродзенскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў дачыненні да старшага сержанта-кантрактніка, які згубіў аўтамат і два магазіны з патронамі

Гродзенскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў дачыненні да старшага сержанта кантрактнай службы — камандзіра разведвальна-пошукавай групы Лідскага пагранічнага атрада.

Паводле звестак Беларускай ваеннай пракуратуры, знаходзячыся пры выкананні службовых абавязкаў, старшы сержант самавольна пакінуў часць і накіраваўся ў вёску Жымісла́ўе Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Там пасля распівання спіртных напояў з мясцовымі жыхарамі ён згубіў аўтамат АК-74, два магазіны з патронамі і свае дакументы. Усё згубленае было знойдзена супрацоўнікамі Гродзенскай міжгарнізоннай ваеннай пракуратуры менш чым праз суткі пасля здарэння. Вядзецца следства.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

**Письмо ветерана**

## Не сыпь мне соль на раны

Сколько ни пиши в резиденцию президента, все равно до него письмо не дойдет. Так, может, через газету пусть узнает, что думает инвалид войны о некоторых действиях и намерениях руководства?

Я — больной и израненный ветеран, мне постоянно нужны всевозможные лекарства. Они дорогие, и только благодаря льготным рецептам для инвалидов имею возможность их приобретать. Из выступления президента я услышал, что, дескать, многие семьи инвалидов этим сверх меры пользуются и даже спекулируют купленными по дешевке лекарствами. Значит, льготу эту надо отменить, а вместо нее бывшим льготникам ввести компенсацию на лекарства.

Не спорю, наверное, встречаются и недобросовестные люди, и спекулянты. Но зачем же из-за этого наказывать тех, кто действительно нуждается в постоянном лечении и за полную цену препараты покупать не может? И что даст "добавка", которая, конечно же, никогда не покроет реальных затрат? Если пенсии у нас мизерные, то соответственными будут и доплаты.

Тут и гадать нечего. Это видно хотя бы по компенсациям за бензин или неиспользованные санаторные путевки: эти компенсации во много крат меньше реальной стоимости. Так что же я куплю за добавку на лекарства? Только одно из них, "Омник", стоит сегодня 1.932 тысячи рублей! Сомневаюсь, что при "компенсации" я смогу его купить. Старые раны болят и не зарубцовываются по сей день, а букет хронических болезней не дает покоя. Мне же, похоже, предлагают посыпать раны... солью.

Не лучше ли, во имя сокращения государственных расходов, внимательно разобраться с немалой армией льготников, среди которых, уверен, есть и явно "липовые"? Те же, кто заслужил льготы своей кровью, пусть ими пользуются на здоровье. И я, поверьте, ратую не только за себя. Обижать немощных сегодня былых защитников Отечества — просто не по-человечески. Их годы и так сочтены.

**Григорий ЛЕСУН, инвалид Великой Отечественной войны.**

г.Березино.



**Прэзідэнт сказаў... Што зроблена?**

## Над "Мухавецкай" кружыла толькі муха...

Як выконваюцца распараджэнні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі? Якая цана яго гучных заяў і абяцанняў? Каб высветліць гэта, мы пацікавіліся "каўбаснай праблемай". Як вядома, у першай палове мая кіраўнік краіны паставіў задачу напоўніць магазіны каўбасамі розных гатункаў, у тым ліку і недарагіх. Усё гэта выдавалася афіцыйнымі сродкамі масавай інфармацыі як чарговы вялікі клопат прэзідэнта пра народ. Ці зроблена што на справе?

Давайце пацікавімся. Але спярша пачытаем паведамленне інфармацыйных агенцтваў пра тое прэзідэнцкае распараджэнне. Паколькі яно паступіла да нас на рускай мове, дык мы яго і друкуем у такім выглядзе. Вось яно:

*"Президент Александр Лукашенко распорядился в два раза увеличить объем поставок сырья на Минский мясокомбинат в июне текущего года. В ходе посещения производства по переработке мяса в Минске глава государства поручил также городским властям в течение ближайших двух недель наполнить столичные рынки и магазины мясной продукцией множества сортов по доступным ценам.*

*Одной из причин, побудивших президента прибыть на мясоперерабатывающий завод, явилось, по его словам, стремление разобраться в причинах возникшего в последнее время повышенного спроса на колбасы невысоких сортов, реализуемые по сравнительно низким ценам. По утверждениям экспертов, такая ситуация возникла вследствие административного регулирования цен на мясную продукцию, не позволяющего предприятиям без указаний сверху повышать цены.*

*Как отметил в интервью журналистам по итогам посещения предприятия А.Лукашенко, чтобы удовлетворить повышенный спрос на недорогие, однако рентабельные для производителей сорта колбас, необходимо* **увеличить ассортимент**. *Президент считает, что количество сортов колбас* **не должно быть меньше восьми на прилавках любого магазина.** *Вместе с тем он дал понять, что не является противником повышения цен на высокосортные и достаточно дорогие в настоящее время сорта мясной продукции, потребителями которой не является основная масса населения страны.*

*А.Лукашенко подчеркнул, что "никакого дефицита колбас в Беларуси нет и не будет в любом случае". По его словам, беспокойство вызывает лишь ситуация в густонаселенном Минске, где недорогие сорта колбас "разметаются" с прилавков очень быстро.*

*По словам президента, в областных центрах дела с обеспечением торговли* ***недорогими сортами колбас обстоят лучше".***

Прайшло ўжо два з паловай месяцы. Ці напоўніліся магазіны недарагімі каўбасамі? Раніцой я накіраваўся ў рэйд па гандлёвых кропках Мінска. Пачаў ад рэзідэнцыі прэзідэнта. Зрабіўшы каля двух соцень крокаў па Чырвонаармейскай вуліцы, апынуўся каля магазіна №1. Заходжу. У мясным аддзеле пуста, хоць шаром пакаці. Няма ніводнага гатунку варанай каўбасы ў суседнім аддзеле. Наведвальніцы панура пазіраюць на дарагія каўбасы коштам па 300 тысяч з хвосцікам. Дарагавата, ды і далёка не першай свежасці. Таму з пустымі авоськамі выходзяць людзі адсюль і крочаць у суседні гастраном на вуліцы Пуліхава. Следам за імі іду і я, слухаючы іх невясёлыя разважанні: "Што здарылася? Раней жа ўсё было, а цяпер не знайсці самага неабходнага. А тое, што ляжыць, дык па кішэні хіба толькі "вертыкальшчыкам".

У гастраноме па вуліцы Пуліхава выбар лепшы. Відаць, таму, што побач жывуць былыя партыйныя функцыянеры і сённяшнія кіраўнікі розных рангаў. Тут ёсць кураняты, праўда, моцна падобныя да галубоў, па 88 тысяч рублёў за кіло, свініна па 103 тысячы, але тлустая, амаль без мяса. З дзяшовых каўбас — дзве, па 96,5 тысячы рублёў за кілаграм і па 115,7 тысячы рублёў. Толькі якасць іх, як кажуць, не "внушает доверия".

Іду далей. Магазін №15 на вуліцы Захарава. Побач шэраг пасольстваў замежных дзяржаў. Што ж яны могуць пабачыць тут? Было тры гатункі варанай каўбасы па 99,3 тысячы рублёў, 102,3 тысячы і 130 тысяч рублёў за кілаграм. Хаця ці можна такія цэны назваць невысокімі? У мясным аддзеле быў "супавы набор" па 32,8 тысячы рублёў за кілаграм, ці "косці", як кажуць людзі.

У "Сталічным" гастраноме на плошчы Якуба Коласа было восем-дзевяць гатункаў варанай каўбасы, але людзі куплялі яе неахвотна.

Затым я наведаў мікрараён Зялёны Луг. На рагу вуліц Гамарніка і Лагойскага тракта стаяла доўгая чарга за сасіскамі па сто тысяч рублёў за кілаграм. Была тут і "варанка" па 87 і 93 тысячы рублёў за кілаграм. Але яе амаль ніхто не купляў, відаць, адпуджваў знешні выгляд. Амаль такія ж непрывабныя вараныя каўбасы былі і ў суседнім магазіне па вуліцы Сядых. Над "Мухавецкай" па 78 тысяч рублёў за кілаграм кружыла муха. Жанчыны, гледзячы на каўбасу, перагаворваліся: "Няўжо яе нехта купляе? Ад яе ж насы адварочваюць нават каты!"

Такім чынам, каўбаснага "изобилия" не відаць. Выбар вараных каўбас абмежаваны, якасць іх часта невысокая. Паўсюдна ёсць па некалькі гатункаў дарагіх каўбас па 200—300 і болей тысяч за кілаграм. Але многія з іх таксама не вылучаюцца добрай якасцю. Некаторыя з іх не ўзяў бы, калі б давалі і так.

Так што майскае распараджэнне прэзідэнта па каўбаснай праблеме аказалася чарговым пустым гукам.

Хачу звярнуць увагу чытачоў на некаторыя аспекты той заявы. Як відаць з паведамленняў інфармацыйных агенцтваў, прэзідэнт не ставіць задачу забяспечыць насельніцтва добрымі прадуктамі, а "задаволіць попыт на недарагія каўбасы". А з чаго робяцца ты недарагія гатункі, добра вядома. Пастаўлена таксама задача, каб у кожным магазіне было не меней васьмі гатункаў каўбас.

Тут не лішнім будзе нагадаць, што ў нашых суседзяў — літоўцаў і палякаў — "каўбасная праблема" наогул не стаіць, у магазінах па некалькі дзесяткаў розных каўбас высокай якасці, хоць іхнія прэзідэнты і не робяць падобных гучных заяў. Там іншая праблема: як збыць прадукты, бо іх перавытворчасць, а тут яшчэ Еўропа падкідвае свае.

Гады два-тры назад і нашыя магазіны напаўняліся рознымі прысмакамі. Але пасля таго, як прэзідэнт краіны вярнуў чырвоны сцяг і герб з каласкамі, а разам з імі і павярнуўся да "светлага будучага", з прылаўкаў пачалі знікаць самыя хадавыя прадукты і тавары. Краіна пачала рухацца да сацыялізму і... талонаў. Наш рэйд яскрава пераконвае ў гэтым.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

